ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1624) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 28 ЧЭРВЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



На заліве ў Дубічах Царкоўных. Фота Л. Малашэўскага.

## НА ТРОЙЦУ Ў ЛІТВІНАВІЧАХ

На Тройцу, 7 чэрвеня г.г., у Літвінавічах традыцыйна ўжо адзначалася людовае свята. Ладзілі яго супольна гмінныя палітычна-адміністрацыйныя ўлады з гміны Нурэц-станцыя і мясцовы аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Гміну ў Літвінавічах прадстаўлялі: яе начальнік Пётр Кавалевіч, родам з тых жа Літвінавічаў, Мікалай Падлашчык — першы сакратар гміннага камітэта ПАРП і член праўлення Сямяціцкага аддзела БГКТ ды Сяргей Путка — прэзас гміннага камітэта Аб'яднанага людовага староніцтва, які таксама выхаваўся на тутэйшых літвінавіцкіх хутарах.

Ад БГКТ у Літвінавічы прыехалі: сакратар Віталій Луба і шматгадовы працаўнік Галоўнага праўлення БГКТ для Сямяціцкага раёна — Міхась Вішанка.

Усё пачалося нібыта зусім звычайна. Па суседніх вёсках, значыць: у Клюковічах, Вычулках, Тымянцы, Вульцы-Нурэцкай, Сяміхочах і Верпалі каляровыя афішы запрашалі насельніцтва на беларускі фэст з багатай мастацкай часткай. Ад абеду на прасторнай зялёнай пляцоўцы ля літвінавіцкай, дбайна адноўленай святліцы, збіралася ўсё больш і больш людзей, пераважна дзяўчат і хлопцаў. І пагода спрыяла: было сонечна і цёпла, як рэдка ў гэтым годзе ў маі і чэрвені. Людзі абселі лавачкі пад высокімі, зялёнымі дрэвамі, з аранжадай і півам, рассыпаліся групамі на траве... Адным словам, хутка запанаваў настрой сапраўднага народнага святкавання. Цешыла вочы і радавала сэрца вялікая колькасць моладзі, вясёлай модна апранутай, бестурботнай.

На жаль, яна толькі нарадзілася ў Літвінавічах або ў суседніх вёсках. Цяпер вучыцца ишчэ, або ўжо працуе ў Сямяцічах, Бельску, Беластоку і яшчэ далей. Да бацькоў прыехала. каб адсвяткаваць у сваёй кампаніі, каб пабываць на традыцыйным беларускім фэсце.

Пяцідзесятніца або Тройца, калі гаварыць па-народнаму. спрадвеку асабліва ўрачыста святкуецца ў Тыляціцкім прыходзе, да якога належаць і Літвінавічы. Таму яны выбралі менавіта гэтае свята, каб адначасова кожны год адзначыць і людовае свята, і ладзіць тут беларускі народны фэст.

А моладзі — каб толькі пагуляць! Такое яе права і гэтакая прывілея. Узяўшы з сабою тое. што бацькі нарыхтавалі ў дарогу, заўтра яны зноў раз'едуцца па сваіх гарадах. Дома, у родных мясцінах, застануцца старэючыя бацькі, якія ўсё часцей прагна лічаць гады да дзяржаўнай пенсіі. Сакратар Мікалай Падлашчык, з якім мы згаварыліся пра тутэйшыя справы. са смуткам інфармуе, што ў мінулым годзе ў гміне Нурэц-станцыя аж 34 гаспадары зракліся зямлі і сталі пенсіянерамі.

— Ахвотных на дзяржаўную пенсію было намнога больш, — засцерагаецца ён. — Але толькі 34 заявы ад сялян змагла станоўча аформіць гмінная адміністрацыя. І падумайце толькі: гэта ж так, быццам бы ў нашай гміне на працягу аднаго года недзе прапала адна вёска!

Я зноў паглядзеў на кавалераў і паненак, якія хаваліся ў цяньку пад ліпамі і клёнамі ды ляніва папівалі аранжаду і піва. Яны вырваліся з вёскі і да іх не даходзіць гэтая горкая праўда, што праз 10-15 гадоў не будзе да каго ім прыехаць, хіба што на магілы сваіх бацькоў і дзядуляў... І Бог яго ведае, ці добра гэта, ці дрэнна, ці цешыцца нам гэтым фактам, што вясковай моладзі дарога ў свет адкрыта, незалежна ад яе маёмаснага становішча ў сям'і? Каб толькі закончыў нейкую школу, хаця б прафесіянальную, каб змог прабіцца ў людзі, дык ідзі і ладкуй сваё жыццё, як сам захочаш і як патрапіш!

(Працяг на стар. 2)

## ВЁСКА СТАРЫНА — СПРАВА ШКОЛЫ

Школа ў Старыне (гм. Дубічы-Царкоўныя) мае дасканалы будынак, з кухняй, цэнтральным ацяпленнем, басейнам, добрую прышкольную пляцоўку і распалажана ў прыгожым гаі на паляне Белавежскай пушчы. На дадатак, у мінулым годзе на рамонт гэтай школы было выдаткавана 2 мільёны зл. Школу памалявалі і паўстаўлялі новыя катлы цэнтральнага абагравання.

Але ў школе ў Старыне вучыцца толькі 25 дзяцей. Мала. Таму ад новага школьнага года гэтую школу рашылі закрыць, а дзяцей вазіць ў Палічну, ці нават у гмінную школу ў Дубічах-Царкоўных.

І тут пачынаецца праблема. У Палічнай і ў Дубічах школы не маюць належных умоў для вучобы. У Палічнай ужо патрэбны капітальны рамонт, у Дубічах таксама стары, цесны будынак. У Дубічах, між іншым, плануецца пабудова новай школы. Школа ў Палічнай мае 76 дзяцей. Што ж рабіць?

У рэдакцыі з'явілася дэлегацыя са Старыны: Васіль Хмель — радны гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных, Уладзімір Леўчук — солтыс вёскі і Антаніна Леўчук. Яны кажуць: „Цяпер бацькі маюць голас і мы, напрыклад, можам хацець, каб нашых дзяцей вазілі ў школу ў Гайнаўку, калі не можа быць школы ў Старыне. Але ў Старыне добрыя ўмовы для школы. У Старыне адзіны такі школьны будынак на ўсю гміну“.

Людзі са Старыны ўжо раней заняліся гэтай справай. Іх думка такая: каб у Палічнай пакінуць класы I—III, а старэйшых дзяцей прывозіць якраз у школу ў Старыне, дзе ёсць усе патрэбныя ўмовы для таго, каб дзяцей карміць і забяспечыць ім адпачынак. Дэлегацыя са Старыны назвала вёскі: Белу Страж, Вярсток і Апаку, дзе людзі згаджаюцца, каб іх дзяцей, замест у Палічну, як дагэтуль, вазілі ў Старыну.

Нам паказалі пісьмо начальніка гміны Дубічы-Царкоўныя ў гэтай справе. Гміна пацвярджае той факт, што ў Старыне для даязджаючых дзяцей можна было б сарганізаваць абеды і адпачынак, што ўмовы працы школы ў Старыне добрыя.

Рацыя Палічнай таксама не абы-якая — тут ёсць дзеці і іх столькі, што не так проста будзе іх давозіць у Старыну. Адна „буда“ (як кажуць у нас людзі на розныя „бусы“, якімі возяць дзяцей у школу) не возьме ўсіх за адзін раз.

Нямала стаіць у нас новых, добрых пашкольных будын-

(Працяг на стар. 3)

 

## НА МЯЖЫ

### АБ НЯВІННЫМ ВІНОЎНІКУ

Здарэнне, аб якім сёння раскажу, звязана з маімі студэнцкімі гадамі. Будучы студэнтам Лодзінскага універсітэта, жыў я ў інтэрнаце, у якім жыла таксама моцна пажылая прафесар-пенсіянер, пані Сімон. Праўдападобна лёс яе склаўся не найлепш, мабыць, не мела яна ніякай маёмасці і парадачнай кватэры. Таму і жыла ў студэнцкім інтэрнаце, займаючы ў ім адзін пакойчык. Бадай, яно так ужо ёсць ад вякоў, што студэнты — гэта народ бурлівы, неспакойны і не толькі гаваркі, але і крыклівы. Вядома таксама, што старыя людзі найчасцей вельмі крытычна адносяцца да непаседлівасці і крыклівасці моладзі, у кожным разе так яно было ў нашым інтэрнаце. З часам на гэтым грунце наспеў глыбокі канфлікт. Калі толькі студэнты замоцна тупалі нагамі, або за голасна гаварылі ці падспеўвалі на калідоры, пані Сімон выскаквала на калідор і моцна лаяла віноўнікаў, называючы іх свіннямі, баранамі або хамамі. Зразумела, што гэта не магло падабацца студэнтам і пачалі яны рабіць тое-сёе на злосць пані Сімон. Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, бо я жыў на іншым паверсе і непасрэднага кантакту з гэтымі падзеямі не меў, але пані Сімон даказвала, што студэнты пад яе дзвярыма мяўкаюць, брэшуць, мычаць і іржаць. Усё гэта робяць, зразумела, з той мэтай, каб надакучыць старэнькай. Не ведаю, ці дэструкцыйная дзейнасць студэнтаў выступала аж у такіх крайніх формах, аднак можна не сумнявацца ў тым, што студэнты сапраўды розныя свінствы пані Сімон рабілі. Калі толькі старэнькая выскаквала з пакоя, маладыя і здаровыя бамбізы разбягаліся па сваіх пакоях і ёй не ўдавалася схапіць віноўніка за каўнер і з ім расправіцца. У канцы канцоў пані Сімон святкавала свята перамогі — схапіла „віноўніка" ў часе, як ёй выдавалася, злачынства. А як да гэтай перамогі дайшло?

Крыху гісторыі. Разам са мной вучыўся хлопец з Лявонавіч. Называўся ён Салавей. У сувязі з гэтым празывалі яго студэнты Птушкай. Меў ён яшчэ адну мянушку. Гучэла яна — „Ціха-Ціха". Справа ў тым, што Салавей быў чалавекам выключна спакойным і ціхім. Заўсёды, калі нехта сказаў крыху грамчэй, чым трэба, Салавей гаварыў: „Ціха, ціха...". Зразумела, што з такім характарам чалавек у ніякай сітуацыі не мог бы крычаць пад дзвярыма пані Сімон. І тут якраз і даходзіць да найбольшага парадоксу, які заключаецца ў тым, што „Ціха-Ціха" быў абвінавачаны ў тым, што хуліганіць пад дзвярыма прафесара-пенсіянера. А як гэта здарылася? Вельмі проста. Студэнты зрабілі пад дзвярыма пані Сімон шум і калі толькі пачулі, што яна паварочвае ключ у сваіх дзвярах, разбегліся хто куды. Як-

(Працяг на стар. 6)

Нацыянальныя меншасці

## ПАЛЯКІ Ў ЧССР

31 мая г.г. у Карвіне адбыўся фестываль Польскага культурна-асветнага саюза ў ЧССР. Як паведамляе „Трыбуна люду", на карвінскім спартыўным стадыёне і ў парку выступілі, між іншым, 1200-асабовы хор, які склалі прадстаўнікі 50 харавых калектываў і 60 танцавальных параў з 30 калектываў. Фестываль адбыўся з нагоды 40-годдзя ПКАС як адно са шматлікіх юбілейных мерапрыемстваў.

Члены ПКАС, якіх найбольш у паветах Карвіна і Брыдэк-Містэк, могуць развіваць свае традыцыі і культурныя зацікаўленні ў каля 50 дамах культуры і клубах, а таксама ў 109 самадзейных мастацкіх калектывах: харавых, танцавальных, музычных, тэатральных і іншых. Толькі ў мінулым годзе гэтыя калектывы далі 650 выступленняў. У Цешыне дзейнічае Польскі тэатр — адзіная польская прафесіянальная сцэна па-за межамі ПНР. Апрача гэтага пры ГП ПКАС працуе прафесіянальны лялечны тэатр „Байка". У ЧССР дзейнічаюць польскія прадшколлі, пачатковыя школы, гімназія і польскія класы ў некалькіх тэхнікумах. У мясцінах этнічна двухнацыянальных абавязвае двухмоўнасць у публічных надпісах. Аднак гэта не тычыцца афіцыйнага азнакавання мясцовасцяў. Выдаецца тут польскі грамадска-культурны месячнік „Зврот". У Астраве выходзіць на польскай мове газета „Глос люду", орган Павятовага камітэта КПЧ. Апрача штогодвага „Календажа Слёнскего", выдаюцца ў дзяржаўным выдавецтве „Профіль" у Астраве кніжкі мясцовых польскіх аўтараў на польскай мове. ГП ПКАС выдае метадычныя публікацыі, брашуры і г.д. Пры ГП ПКАС дзейнічае Літаратурна-мастацкая секцыя. Яе члены могуць быць прыняты ў чэшскія саюзы.

Польскі культурна-асветны саюз з сядзібай у Цешыне дзейнічае ў рамках Нацыянальнага фронту ЧССР.

# НА ТРОЙЦУ Ў ЛІТВІНАВІЧАХ

(Працяг са стар. 1)

Бацькі, пакуль змогуць, у бядзе не пакінуць.

— Добры дзень, дзядзьку Рудчык! — чую недзе збоку. Адварочваюся, падаю руку на прывітанне, гляджу ў твар і, дальбог, не ведаю, хто мяне вітае. Аказваецца, што гэта мае землякі, хлопцы, якія нарадзіліся ў Вульцы-Нурэцкай нейкіх 20-25 гадоў таму назад, значыць, намнога пазней пасля таго часу, калі і я развітаўся з роднай вёскай і бацькоўскай хатай. Хата яшчэ засталася, стаіць пустая, дагнівае... Але вяртацца мне няма ўжо да каго. Так будзе і з вамі, маладыя мае сябры-суродзічы!

Тыя, што мяне зачапілі, прыжыліся ў Беластоку. Адзін з іх працуе на мэблевай фабрыцы, а другі — на нейкім іншым буйным камбінаце, назву якога я і не запамятаў. Абодва ўжо адслужылі войска. Хлопцы-малайцы! Зарабляюць таксама нядрэнна. Кажуць, што ніжэй 20-і тысяч у месяц ніколі не бывае.

— Пара б вам жаніцца, хлопцы! — жартую.

— Дык мы і прыехалі на гэты фэст, — кажа гэтым жа жартоўным тонам высокі, белабрысы юнак. — Вось бачыце, колькі тут дзяўчат і ўсе свае. Можа нейкая спадабаецца...

— Ажаніцца дык не праблема, — дадае другі. — Але дзе жыць, як раздабыць кватэру, калі ў спулдзельні чарга зацягваецца да 15—20-і гадоў..?

Абодва яны пакуль што жывуць у рабочых інтэрнатах. Ім пашанцавала, бо гэта шмат танней, чымсьці наймаць кватэру ў прыватным асабняку. За таго, што з мэблевай фабрыкі, нават плаціць прадпрыемства. Гэты другі свае жыллё аплачвае з уласнай кішэні. Але ж доўга можна быць кватарантам без уласнага кутка, без даху над галавою для сябе і сваёй сям'і?

І гэта другі, менш каляровы бок маладзёжнай гонкі ў горад. Дык зайздросціць ім ці не? Адказ на гэтае пытанне кожны з нас мусіць знайсці самастойна.

Гляджу на гадзіннік. Мінуў ужо абед. Пара пачаць гэтую ўрачыстасць. Міхась Вішанка кажа, што трэба яшчэ пачакаць самадзейнага мастацкага калектыву з Орлі, які абяцаў сваімі песнямі ўзбагаціць гэты народны фэст.

— Я прабаваў сцягнуць у Літвінавічы яшчэ іншыя мастацкія калектывы, — апраўдваецца гэты вопытны бэгэкатоўскі працаўнік. — На жаль, не ўдалося. Адны паехалі ў Беласток, куды паклікалі іх, каб выступіць на Кірмашы дружбы, у рамках „Панарамы фальклору", а іншыя спявалі ў Міхалове і Гарадку. Толькі арлянцы згадзіліся прыехаць да нас.

Давялося чакаць. Я зноў прысеў да сакратара Мікалая Падлашчыка.

— Вы пахваліце ў газеце жыхароў вёскі Нурчык, — папрасіў я. — У першамайскім пачыне яны дружна, за ўласныя сродкі і з уласнага матэрыялу пабудавалі для сваёй вёскі аўтобусны прыпынак. Гэта ля шашы з Мілейчыц у Клюковічы. У гміннай управе іх грамадскі пачын спецыялісты ацанілі на 400 тысяч злотых. Арганізатарамі гэтага пачыну былі члены партыі з тутэйшай партыйнай арганізацыі, асабліва таварышы Антон Карнілюк і Іван Курыла.

Прадстаўнікі гмінных улад разам з прадстаўнікамі БГКТ урэшце ўзабраліся на сцэну, састаўленую з дзвюх трактарных прычэпаў і ўпрыгожаную свежымі бярозкамі. Распачаўся народны мітынг. Ад імя тутэйшых улад выступіў Сяргей Путка, а з беларускім словам аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе значэнні для беларускага народа — сакратар Віталій Луба.

На жаль, самадзейнікі з Орлі так і не прыехалі. Толькі Нурэцкі ГС пастараўся заахвоціць даволі каштоўнымі ўзнагародамі да ўдзелу ў квізе-адгаданцы аб статутовых асновах дзейнасці гэтай гандлёвай спулдзельчай установы. Пецярых ахвотных ледзь знайшлося...

Дзіўна беднавата, як ніколі дагэтуль, завяршылася гэтае народнае святкаванне ў Літвінавічах. Асабліва падвяло Беларускае таварыства. Людзі ж спецыяльна з'ехаліся ў Літвінавічы, каб паслухаць родныя песні, каб паглядзець, як выступаюць такія ж сяляне, як і яны. А гэтых выступленняў, на жаль, не было. Беларуская справа ў Сямяціцкім раёне шмат на гэтым страціла.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



**З далёкіх і блізкіх старон з'ехаліся на Тройцу ў Літвінавічы людзі, каб прыняць удзел у беларускім фэсце.**



**Цешыла вока і радавала сэрца моладзь, якая ў гэты дзень наведала сваё роднае старонне.**



 

# МАТУРА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

138 абітурыентаў з двух беларускіх ліцэяў (у Бельску — 84 і ў Гайнаўцы — 54) прыступіла ў гэтым годзе да экзаменаў на атэстат сталасці (матуральных) па беларускай мове і літаратуры. Усе здалі.

Тэмы для пісьмовых работ былі такія:

1) „Наша ніва“ і яе роля ў развіцці беларускай нацыянальнай свядомасці.

2) Што ведаеш і як ацэньваеш беларускую дакастрычніцкую літаратуру.

3) Адлюстраванне важных гістарычных падзей у вядомых табе творах беларускай літаратуры.

Якія вынікі?

У Бельску: на першую тэму пісала 48 чалавек, другую — 10, трэцюю — 26. Ацэнкі: выдатна напісала 26 чалавек, добра — 26, пасрэдна — 32; вусныя экзамены: выдатна — 35, добра — 17, пасрэдна — 30.

Найцікавейшыя работы прадставілі: Іаанна Кадлубоўская, Барбара Юшчук, Эльжбета Чэчуга, Крыстына Анішчук, Юрый Сакалоўскі.

Тры выпускнікі Бельскага ліцэя будуць здаваць экзамены на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Гэта: Барбара Васілюк, Мар’я Іванчук, Юлія Хмур.

У Гайнаўцы: на першую тэму пісалі ўсе 54 асобы. Ацэнкі: выдатна — 16, добра — 31, пасрэдна — 8; вусныя экзамены: выдатна — 24, добра — 21, пасрэдна — 9.

Двое выпускнікоў з Гайнаўскага беларускага ліцэя будуць здаваць на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Гэта: Андрэй Іванюк і Крыстына Місеюк.

Не можам падаць цікавейшых работ з Гайнаўкі, бо захварэў выкладчык беларускай мовы і літаратуры мгр Васіль Сакоўскі. Але плануем апублікаваць падборку цікавейшых фрагментаў пісьмовых работ з абодвух ліцэяў.

**(вв)**

Фота Яраслава Рашчэнкі, вуч. III а кл., члена фотагуртка, якім кіруе Мікалай Сцепанюк.



**Абітурыенты ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску пішуць работы на выбраныя тэмы па беларускай мове і літаратуры.**

**(Працяг са стар. 1)**

# ВЁСКА СТАРЫНА-СПРАВА ШКОЛЫ

каў. Пустуюць. Часта нішчэюць. Набудавалі іх, праўда, з энтузіязмам, але без перспектывы. Вельмі цяжка загаспадарыць такі будынак. Ці нешта такое пагражае і школьнаму будынку ў Старыне?

Людзі ў Старыне не хочуць да таго дапусціць. Дэлегацыя вельмі разумная. Яна выказала ў рэдакцыі і такую думку: „Калі дом старцаў у нас зробяць, то мы згаджаемся“.

Хочацца сказаць, што грамадзянскі падыход старынінскія людзі маюць. Яны проста шукаюць найлепшага вырашэння праблемы школы ў Старыне, каб усім было як найлепш і найвыгадней.

Здаецца, трэба гэтую справу і ўладам разважыць вельмі салідна і глянуць на яе з усіх бакоў. Можа, фактычна, папоўніць школу ў Старыне дзецьмі з некаторых бліжэй распалажаных вёсак, якія дагэтуль возяць іх у іншыя школы?

**Вера Валкавыцкая**

# У АДЗІН БЕЛЬСКІ ДЗЕНЬ

Падчас святкавання Дзён Бельска журналісты „Нівы“ М. Хмялеўскі і В. Рудчык 3 чэрвеня г.г. наведалі падставовую школу № 3 у Бельску, у якой усе дзеці навучаюцца беларускай мове. Дырэктар В. Ляшчынскі падзяліўся дасягненнямі і клопатамі школы. Славіцца яна высокім узроўнем навучання. Пра гэта, між іншым, сведчыць і той факт, што ў прадметных конкурсах з матэматыкі, польскай і рускай моваў, біялогіі і геаграфіі яе вучні найлепшыя ў ваяводстве. У мінулым навучальным годзе яна мела ў гэтых конкурсах 11 чалавек пераможцаў, а ў бягучым годзе — 14. Многія бацькі хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў гэтай школе, але бяда ў тым, што нядаўна пабудаваны школьны гмах зноў зацесны і няма магчымасці ўсіх жадаючых прыняць у першы клас. У будучым навучальным годзе будзе пяць першых класаў, разам у іх 150 вучняў. Такім чынам ад восені ў школе будзе больш за 900 школьнікаў. І зноў у „Тройцы“ заняткі будуць працягвацца да 5-й, а нават да 6-й гадзіны вечара, а гэта вельмі нявыгадна і для дзяцей і для настаўнікаў, мае некарысны ўплыў на працэс навучання. Цяпер канчае VIII клас 70 чалавек. Варта падкрэсліць той факт, што з іх 43 выпускнікоў паступае ў Бельскі беларускі ліцэй.

Пасля размовы з дырэктарам В. Ляшчынскім журналісты „Нівы“ разам з настаўнікам беларускай мовы С. Бурылам пайшлі на спатканне з вучнямі 7-х і 8-х класаў. Расказвалі ім аб працы рэдакцыі, друкарні, адказвалі на пытанні. У гэтай сустрэчы таксама ўдзельнічаў карэспандэнт „Нівы“ Юрка Гаўрылюк.

*

Наступная сустрэча журналістаў „Нівы“ адбылася ў Беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча. У кабінеце беларускай мовы (у ім шмат партрэтаў беларускіх пісьменнікаў, значны кнігазбор, спецыяльны куточак з беларускімі часопісамі, у тым і „Нівай“) сабраліся вучні 3-х класаў. Прысутнічаў дырэктар ліцэя А. Карпюк і і выкладчыкі беларускай мовы — В. Рышчук і З. Дземянюк. Журналісты расказалі аб працы рэдакцыі, актуальных праблемах і заданнях прэсавага органа ГП БГКТ.

Ліцэісты закранапі пытанні афармлення газеты і яе зместу, выказвалі свае ўласныя меркаванні і прапановы адносна пашырэння яе праблематыкі.

У сардэчнай атмасферы праходзіла дзелавая, сяброўская размова аб беларускім часопісе, беларускасці і беларусах. Дырэктар А. Карпюк закрануў тэму рысаў беларускага нацыянальнага характару і адзначыў, што мы не заўсёды патрапім цешыцца з дасягненняў сваіх сяброў, што часам у нас больш зайздрасці, чым задавальнення з добрых спраў нашых калег. І аб гэтым варта пісаць.

На развітанне вучні ўручылі журналістам кветкі і падзякавалі за цікавае спатканне.

*

Неабходна дадаць, што святкаванне Дзён Бельска аздобілі выступленні народнага ансамбля песні і танца Гродзенскага дома культуры „Нёман“. Бяльчане захапляліся яго мілагучнымі галасамі, музыкай, танцамі і строямі. Усе нумары праграмы, а было іх больш за 20, узнагароджвалі ўдзячнымі воплескамі.

З падзякай для „Нёмана“ выступіў старшыня Таварыства прыяцеляў Бельска Тадэуш Вільгат і ўручыў калектыву падарунак з крышталю, а гродзенскія госці падарылі бяльчанам беларускі народны ручнік і іншыя сувеніры.

Варта адзначыць і той факт, што прадстаўнікі калектыву песні і танца „Нёман“ наведалі памяшканне Бельскага аддзела БГКТ, у якім пабачылі этнаграфічную выстаўку і ўпісаліся ў памятную кнігу аддзела. (мх)

ПОГЛЯДЫ

# ЖЫВУЦЬ, НЕНАВІДЗЯЧЫ СЯБЕ

Памірае беларушчына, наша мова, нашы звычаі, традыцыі, народная культура наша гіне, пераймаем чужыя погляды на свет і справы чалавечыя. Робімся чужынцамі, пра што калісьці пісаў вялікі Максім Багдановіч у сваёй несмяротнай „Пагоні“ („Не давайце чужынцамі быць!...“). Не пачуеш цяпер беларускай мовы нават на вяселлях у вёсцы, асабліва, сярод моладзі, дружак і дружбантаў, а маладая пара, дык ужо як бы абавязкова размаўляе па-польску. Дзед з бабулькаю таксама інакш не загавораць да маладых, як толькі па-польску. Даўней у такой сітуацыі стараліся гаварыць яны па-руску, што адно і тое ж. З беларускай мовы робяць мову ганьбы, мову сораму і паніжэння, ад якой трэба ўцякаць, куды вочы панясуць! І чаму гэта так: то ж сацыялізм на нашым двары, паноў і буржуяў няма, дзякаваць Богу, больш як сорак гадоў, паўвеку зараз будзе. А гэта ж яны, паны і буржуі, ганьбілі нас. А цяпер — што? Мы самі сябе ганьбім? Ну так, самі сябе!

Я працую на пошце. Усе мы тут свае людзі і гаворым па-свойму. І ўсё добра — сардэчна жывём і справы да сябе маем. Аднак, час ад часу, даходзіць да вельмі прыкрых скандалаў па прычыне мовы нашай, і то не таму, што прыходзяць на пошту іншы раз людзі, якія ўмеюць гаварыць і разумеюць толькі па-польску. Да такіх мы адносімся гэтак жа добра і гаворым з імі па-польску, бо як іначай, калі ты культурны і сумленны чалавек?! Але бываюць на пошце і некаторыя актывісты нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства ды, як на бяду якую, высокаадукаваныя яны, з дыпломамі. О, такі напэўна не загаворыць па-беларуску, хоць ён і лічыцца беларускім актывістам. Я да такіх спецыяльна гавару па-беларуску і трэба вам, дарагія чытачы, бачыць іхнія, чырвоныя твары ды буксуючыя ад злосці вочы! Часамі вазьму і скажу катораму з іх: чаго ж ты, чалавеча, зацясаўся ў наша Беларускае таварыства, калі беларускае слова табе горш аплявухі па мордзе? Чаго ты шукаеш у гэтай арганізацыі? Грошай? Медалёў і ордэнаў?

Яны, гэтыя прышываныя беларусы, вельмі ненавідзяць мяне за такія пытанні да іх. Мне псіхалагічна цікава: як гэта яны сабе думаюць жыць гэтак далей, у такой пастаяннай ганьбе да ўсяго роднага свайго і да саміх сябе ў канцы канцоў?! Гэта мне загадка яшчэ адной асаблівасці чалавечай дурнаты. І, на жаль, іх уплывы штораз большыя ў людзей.

**Мікалай Панфілюк,**
Дубічы-Царкоўныя.

## СЯБРЫНА

# ТВОЙ ІНШЫ СВЕТ

### РАЗМОВА З ЕВАЙ НЯСТЭРЧУК-ШЧУРКА

**Міра:** Ёсць студэнты, якім часу хапае і на навуку, і на грамадскую дзейнасць і на прыватнае жыццё. Але ёсць такія, якім падай усё на талерцы — і яны не захочуць узяць. Мы з камісіі культуры ЗПС, і ты, яе шэф, адрабілі сабе рукі па локці з гэтай „Беластоцкай студэнцкай вясной“, а студэнцкае брацтва ледзь-ледзь заварушылася.

**Ева:** Хто такі — актыўны студэнт... Па-рознаму тое можна разумець. Можа гэта студэнт, у якога высокая сярэдняя ацэнка, які вядзе шырокую грамадскую дзейнасць у розных гуртках, арганізацыях. А некаторыя думаюць: ён так больш на вольным ходзе „актыўны“ вечарам, на „імпрэзах“. Ну, там таксама ў нейкай ступені можна быць актыўным. Але цяжка камусьці ўліць новую кроў.

**М.:** А ў цябе кроў жывая, бачу, гарачая, хаця гаворыш ты памаленьку, разважліва... І пабеларуску!

**Е.:** Мае бацькі паходзяць з двух розных рэгіёнаў Беласточчыны. Мая мама — з Зубачоў, гэта недалёка Чаромхі. Бацькава вёска — хутары Меляшкі, каля Гарадка. Гэтыя рэгіёны розныя па мове. Я нарадзілася ў Беластоку. Калі была меншай, часцей ездзіла да маміных бацькоў, пазней зноў наведвала дзядоў гарадоцкіх. Разам з сястрою і братамі хадзілі на вясковыя забавы. Такія „патанцоўкі“ мне намнога больш падабаліся, чым „дыскатэкі“ ў горадзе. Я, „мястовая пані“, часам пяць кіламетраў праходзіла, каб патупаць на забаве. Я люблю людзей з тых бакоў Беласточчыны, і думаю, што я на іх падобная. Як дагэтуль, я не навучылася добра гаварыць так, як гавораць пад Гарадком ці ў Чаромсе... Пачакай, чаму гавару „людзі з тых бакоў“, гэта ж і мая родная старонка! Лепш сказаць — нашы людзі. Добразычлівыя, сардэчныя, дружалюбныя, адкрытыя, гасцінныя...

**М.:** А ты якая?

**Е.:** Цяжкае пытанне. Цяжка на яго адказаць. Думаю, што мае знаёмыя маглі б больш сказаць пра мяне, хоць бы і ты, Мірка. Думаю, што на гэтае пытанне больш можа сказаць тое, чаго я не люблю. Не пераношу



я хлусні, фальшы, самалюбства, злосці, зайздрасці і зазнайства. Такіх людзей стараюся мінаць здалёк. Ад людзей вымагаю таго, каб добра адчуваць сябе ў іх прысутнасці, а гэта ўжо вельмі многа.

Жыццё часта дае аказію чалавеку выказацца чалавечнасцю, высакароднасцю характару. Часцей, аднак, яно прымушае людзей да паводзін, якія заслугоўваюць ганьбавання: бурчэння на бліжняга, распіхвання локцямі, ашуканства. Цаню людзей, якія, паміма гэтых цяжкасцей, умеюць быць сабой і стараюцца так паводзіць сябе, каб ніхто нідзе не мог ім нічога закінуць. Праўдзівыя гэта словы: „Жыццё кароткае, але слава доўгая“. Колькі мудрасці ў такіх выказваннях... Люблю чытаць. Усё: гісторыю, філасофію, паэзію. Калі бяру кніжку ў рукі, я ўжо з ёю звязана, і таму мне цяжка выбраць найлепшую. Люблю таксама музыку, фільм, вандроўкі, сустрэчы з людзьмі. Мае зацікаўленні звязаны таксама з будучай маёй прафесіяй настаўніцы рускай мовы.

**М.:** Аб якім чалавеку марыла? І які ён ёсць, гэты твой Андрэй?

**Е.:** Мужчына павінен быць... Ён ёсць! Інтэлігентны, але не сухі, стрыманы, але поўны тэмпераменту, чулы, але не саладжавы, цярплівы, але не ўступчывы, поўны фантазіі, але лаяльны і верны, памяркоўны, але ўпэўнены ў сваіх рацыях. Да таго — закаханы ўва мне. Такі вось, па-мойму, мой муж.

**М.:** Ён звычайны і такі незвычайны, але, перш за ўсё, вельмі сімпатычны!

**Е.:** Мая праграма — быць шчаслівай. Аснова гэтага — знайсці апору ў рэчах звычайных, простых — у спакоі, ва ўсмешцы, гармоніі, згодзе. Гэта — дом і сям'я, а таксама праца, такая важная ў нашым жыцці. Вось цяпер здзейснілася адна мая мара: мой муж раней вярнуўся з арміі. А цяпер зноў аб чымсьці мару, але гэта — таямніца.

**М.:** Ева, я з табою даўно знаёмая, але ў гэтай размове адкрываю цябе нанава, цэлы твой іншы свет...

**Е.:** Мой свет... Гэта свет і рэальны, і не — свет дзяўчыны, жонкі і кагосьці нерэчаіснага, хто патрапіць адарвацца ад зямлі, лётаць. Быццам падвойнае жыццё, але адно, якое трэба пераЖыць. Нехта калісьці сказаў: „Шчасце памнажаецца, калі яго дзеляць“. Трэба мець нейкую мэту, да якой трэба ісці. Каб не гэтыя мары, свет быў бы сумны і шэры, праўда?

**Гутарыла Міра Лукша**

## ЗМЕНШЫЛІСЯ ЎЦЁКІ

Вясковы люд працавіты, як мурашкі. Ад усходу да захаду сонца хапае яму работы на гаспадарцы. Нямнога ў яго вольнага часу, таму што апрача палявых работ трэба даглядаць жывёлу, трэба карміць свіней і паіць кароў. Сяляне, вядома, не маюць вольных ад працы субот і нядзеляў, не маюць месячных водпускаў і зарплатаў. Вось гэтая бесперапынная праца на гаспадарцы, ды нялёгкая праца — гэта адна з прычын уцёкаў вясковых людзей у горад.

Але ёсць яшчэ і іншыя прычыны. Адна з іх — гэта недахоп дадатковых крыніц даходаў. Там, дзе яны ёсць, там так моцна не пусцеюць вёскі. Прыкладам можа быць вёска Вярхлессе, што ў Шудзялаўскай гміне. Распалажана яна ў адлегласці 10 км ад Саколкі. Калі ў Саколцы рушыла новая фабрыка будаўнічай сталяркі, паявілася вялікае запатрабаванне на людзей да працы. Некалькі дзесяткаў жыхароў Вярхлесся на гэтай фабрыцы, а таксама і на іншых сакольскіх прадпрыемствах і ўстановах знайшлі дадатковую крыніцу даходу. Яны апрача гэтай працы, паспяваюць таксама абрабляць свае гаспадаркі і то з вялікай карысцю для сябе і дзяржавы. Такім чынам сталіся яны людзьмі дзвюх прафесій — сталіся сяляна-рабочымі. Многія з іх пабудавалі ў сваёй роднай вёсцы мураваныя, прыгожыя дамы з усімі гарадскімі выгодамі і пакуплялі самае сучаснае хатняе абсталяванне — халадзільнікі, пралькі, тэлевізары, некаторыя нават легкавыя машыны. А каб жыць культурней у вёсцы, узяліся за пабудову ў грамадскім пачыне вясковага дома культуры і пабудавалі яго. І жывуць культурна і заможна. Зразумела, што яны шмат працуюць, але затое шмат усяго маюць. І менавіта вось гэтая дадатковая крыніца даходу з Саколкі прычынілася да зніжэння ўцёкаў жыхароў Вярхлесся ў гарады.

**(мх)**

Зямлі жадаем міру,
Людзям — добрай мары,
Каб у жыцці ніхто не ўбачыў
Райскай чорнай хмары.

На чарговай рэпетыцыі хору „Хлопцы-рыбалоўцы“ ўспомнілі пра бai над Нарвай. „Пра гэта трэба напісаць песню!“ — рашылі.

Колі найлепш складаецца песня на працы. Падчас яе родзяцца словы, мелодыя. Прыехаўшы з поля, паставіў ён трактар, і зайшоў у хату — і запісаў на касету новую песню. Мелодыю распрацоўвае кіраўнік рыбалаўскага калектыву Пётр Нявінскі, запісвае ноты, распісвае на галасы. Новая песня называецца „Бai на Надатках“.

Сенакосы ўжо былі пачаты,
Шлі дарогамі запылены
салдаты.
За ракою Нарвай сталі,
Абароны не ўтрымалі —
Усе ў бai загінулі яны.

Ранены салдат, цяжка ляжаці,
І вады ніхто яму не змог
падаці.
Кроў з грудзей у пясок
сплывае...
Маму ён сваю ўспамінае:

— Не ўбачуся я больш ужо
з табою...

Маці сына з фронту ўсё чакае,
Дзе магіла, то яна не знае.
Ён загінуў у першым бai,
Под узгоркам за ракою,
Дзе зялёны лес цяпер расце.

У вёсцы Рыбалы загаварылі пра песню, пра Надаткі, дзе было поле, а цяпер расце малады лес, пра магілку, якою апякуюцца школьнікі з Рыбалаў.

А перад днём 22 чэрвеня, сышоўшыся каля мясцовай малачарні, загаварылі рыбалаўцы і пра тое, што на месцы пакуты і смерці савецкіх салдатаў трэба паставіць помнік, на вечную памяць ад жывых для мёртвых.

Коля Ігнацюк прынёс гэтую вестку ў нашу рэдакцыю, каб апублікаваць яе і здабыць для гэтай ідэі шырэйшыя кругі людзей, Заблудаўскую гміну і іншыя гмінныя ды і ваяводскія ўстановы. „Каб мы супольнымі сіламі змаглі паставіць помнік тым салдатам, — кажа ён. — Усе навакольныя вёскі не адмовяцца, будуць за гэтым і дадуць падтрымку. Якія вёскі? Рыбалы, Войшкі, Плёскі, Канюкі, Дзяніскі — наднарвянскія беларускія вёскі. Цяпер на тым месцы дзеці са школы ў Рыбалах робяць парадкі і апякуюцца салдацкай магілкай“.

Гісторыя такая з магілкай на Надатках. У 1950 г. астанкі загінуўшых каля Рыбалаў салдатаў былі перавезены на могільнік у Бельск. Але акцыя не была дакладная, бо і не магла быць у сітуацыі масавай смерці, калі загінула ў гарачы летні дзень, як сцвярджаюць людзі, некалькі соцень салдат.

І вось, недзе ў канцы 60-х гадоў, дзеці грэбліся ў маладняку і знайшлі астанкі першага салдата. Добра захаваны быў бот з уваткнутым за халяву пісьмом. Хлапчукі пабеглі і паклікалі дарослых. Тыя вынялі пісьмо (відаць, складзенае ў апошнюю хвіліну, з надзеяй, што нехта прачытае і паведаміць радню), пісанае хімічным алоўкам. Пісьмо размазалася, расплылося і зусім не можна было яго прачытаць, ды і сама папера збуцвела.

Аляксандр Мікалаюк з Рыбалаў, стары франтавік, паранены моцна пад Будапештам, трапіў у шпіталь і там дачакаўся заканчэння вайны. Ён цяпер разам з дзецьмі зрабіў таму невядомаму салдату магілку і абгарадзіў яе. На ёй дзеці са школы ў Рыбалах пасадзілі кветкі і ў далейшым ходзяць туды і даглядаюць. Рыбалаўскія дзеці дбаюць пра свайго салдата. Хочуць яны, каб з гэтай, па-беларуску добрай, зямлі не перастаў ён — непрачытаным, не дайшоўшым нікуды пісьмом заклікаць бараніць мір.

Потым зноў знаходзілі астанкі іншых загінуўшых салдатаў, а ў апошні час, паведамляюць нам, што зноў жа дзеці знайшлі астанкі салдата і зрабілі другую магілку.

Месца святое. Тут асталіся верныя і стойкія абаронцы, не адступіўшыя. Яны нават засталіся тут і тады, калі іх баявых сяброў забралі ў супольную брацкую магілу ў Бельск. Для іх брацкай ёсць магіла тут, над шумлівай Нарвай, ва ўражлівым сэрцы дзяцей, і ў добрай памяці тутэйшых людзей. Гэтая зямля святая! Таму ідэя помніка на гэтым крывавым месцы, зроджаная песняй Мікалая Ігнацюка, які хоча „каб не загінула ніколі памяць пра тых салдатаў“, верым, здзейсніцца.

**Вера Валкавыцкая**

## выказванні

### АЛЯКСАНДР ПРАХАНАЎ

#### Аб гісторыі

„Нет, не следует близоруко винить социалистическую историю в якобы имманентно ей присущих трагедиях. Не следует противопоставлять социалистической истории „золотой девятнадцатый век“, якобы прерванный Революцией. Революция с ее трагедиями зарождалась в девятнадцатом веке, копилась в противоречиях „золотого века“, была выстрадана всем минувшим столетием. Толстой восстал против церкви, и это через два десятилетия способствовало разрушению храмов. Террор эсеров, погромы „черной сотни“, массовые казни революционеров — они заложили в политическую практику двадцатого века принцып террора... Толстой был „зеркалом“ Революции. Блок, певший „алые, кровавые зори“ предчувствовал близкие беды и кары, был герольдом Революции. Сегодняшние интелигенты, генетически причисляющие себя к Толстому и Блоку, винящие социализм во всех грехах, проявляют духовное ренегатство, не хотят разделить историческую ответственность своих учителей и предтеч“.

(„Литературная Россия“)

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

раз у тым часе вяртаўся з горада душой Богу вінаваты „Ціха-Ціха“. Калі пані Сімон адкрыла дзверы, ён якраз мінаў яе пакой. Пані Сімон схапіла яго за шываратi павалакла да кіраўніка інтэрната, а той у сваю чаргу скіраваў справу да рэктара. Рэктар паставіў яе на дысцыплінарнай камісіі, якая правяла судовы разгляд справы. У часе гэтага разгляду пані Сімон даказвала, што „Ціха-Ціха“ пад яе дзвярыма мяўкаў, брахаў, мычаў, іржаў і што яна яго схапіла ў часе гэтых ганебных дзеянняў. „Ціха-Ціха“ бараніўся вяла. Гаварыў аб тым, што ён не вінаваты, але гаварыў так ціха, што яго словы амаль не даходзілі да членаў дысцыплінарнай камісіі. Камісія гэты ціхі голас успрыняла як адзін з доказаў віны Птушкі. Прыйшла да вываду, што чалавек, які „здзёр“ горла пад дзвярыма пані Сімон, не можа голасна гаварыць перад камісіяй. У канцы канцоў уляпіла яму вострую вымову з папярэджаннем.

У гэтай трагедыі былі і камедыйныя элементы. У чым яны праяўляліся? А ў тым, што я не раз бачыў, як „Ціха-Ціха“, вяртаючыся з горада або ідучы ў горад, калі толькі наблізжаўся да пакоя пані Сімон, на момант затрымліваўся, станавіўся на падыбкі і віхрам пралятаў каля пакоя пані прафесар. Разумеў, што адзіны яго ратунак у хуткасці. Вось і ўсё, звязанае з гэтай справай і вясёлай гісторыяй, якая з'яўляецца пацвярджэннем, што ў так званым святле права вельмі часта віноўнікамі становяцца нявінныя асобы. А прыклад такой асобы наш „Ціха-Ціха“ — Птушка.

А. Барскі





## СПЯВАЕ І ТАНЦУЕ „НЁМАН“

Калі „Нёман“ спявае, тады здаецца, што песня — гэта яго стыхія; калі ж „Нёман“ танцуе — упэўнены кожны, што грацыі яго танцорак і звітнасці танцораў не знойдзеш раўні...



Многа разоў гасцяваў на Беласточчыне за 30 год сваё дзейнасці гэты выдатны народны ансамбль песні і танца з братняй Гродзеншчыны. Ён заўсёды зачароўваў нас сваім высокім выканаўчым майстэрствам і далікатнай красою ўзорыстых строяў. Таксама было і сёлета, як на пачатку чэрвеня з нагоды адкрыцця Першага кірмашу прыгранічнага абмену ў Беластоку „Нёман“ даў канцэрт перад беластачанамі, затым выступіў у Бельску і Гайнаўцы.

Усе, хто ведае „Нёман“ з папярэдніх выступленняў, з адабрэннем адзначылі выразныя перамены ў яго характары. Ансамбль выдатна паглыбіў свае зацікаўленні фальклорам Панямоння і набыў адметныя якасці народнага ў найлепшым сэнсе гэтага слова. Ён цяпер выконвае ўсяго некалькі аўтарскіх песень, як надта ж папулярную і ў нас на Беласточчыне „Нёман“

### ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## НЕ ХАВАЮЧЫ МЯЧА

Калі сёння, з адлегласці больш за 600 год прыглядаемся паводзінам Кейстута, то ў вочы кідаецца перш за ўсё іх падабенства да ўчынкаў Гедыміна. Павучэнні бацькі, што трэба як зрэнку вока берагчы незалежнасць дзяржавы і ўсімі сіламі пашыраць яе ўладанні ды павялічваць моц, былі для яго непарушнай святасцю і мэтай жыцця. Таму калі пасля вельмі ўдалага паходу ў 1365-1366 гадах, караля Казіміра на Валынь і Падолле падпарадкаваліся Польшчы разам са значнай тэрыторыяй таксама і некаторыя Гедымінавічы — Аляксандр Карыятовіч, князь ва Уладзіміры Валынскім і Юрый Нарымунтавіч, князь у Халме і Белзе, а таксама яго браты на Падоллі, іхні дзядзька, мусіць, цяжка перажыў такую страту Вялікага княства і паніжэнне пануючай у ім дынастыі. Мабыць, спачатку не скупіўся на дакорлівыя павучэнні пляменнікам, але тыя апраўдаліся: добра дзядзьку павучаць, калі ён валодае паловай дзяржавы, а нас дык у беззямельных ізгояў гоніць, сам жа аддаў мазавецкім падданым Казіміра ўсё міжрэчча Бобры і Нарвы з Гонязем разам.

Ці гэтак дапяклі пляменнікі ў адказ дзядзьку, ці інакш — крыніцы маўчаць. Затое вядома, што Кейстут вырашыў змыць з сябе ганьбу і адваяваць страчанае дагаворам 1358 г. міжрэчча Нарвы і Бобры. Скарыстаўшы ў 1368 г. з занятасці Казіміра і падлеглага яму мазавецкага рыцарства здабываннем захопленага немцамі сярэдняга Паморскага паазер'я па рацэ Драве, Кейстут разаслаў „віці“. Вайсковыя атрады са Слонімшчыны і Гарадзеншчыны ачысцілі з мазавецкіх гарнізонаў Гонязь і іншыя крэпасці ў міжрэччы Бобры і Нарвы, перапраўіліся цераз Нарву і, злучыўшыся з атрадамі з Берасцейшчыны, Дарагічыншчыны і Бельшчыны, здабылі пагранічную мазавецкую крэпасць Свенцк (каля сённяшняга Высока-Мазавецка — М.Г.) і рушылі ў Мазоўша.

Аслабленыя паходам у далёкае Пamор'е найлепшых сіл, мазаўшане не маглі паўстрымаць Кейстутавых войск, адна крэпасць паддавалася за другою, дзень ад дня рос натоўп палонных ды пры сёдлах вояў пухлі мяхі са здабычным дабром. Хронікі кажуць, што насельнікі Пултуска паверылі ў непрыступнасць абаронных сцен свае крэпасці і не паслухалі Кейстутавага закліку, каб здаліся яму. Тады Кейстут загадаў абкласці сухім дрэвам крэпасць і падпаліць. Усе яе абаронцы загінулі ў полымі. Ці можна сумнявацца, што мазавецкае ры-

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

## ВЫКАРЫСТОЎВАННЕ НЯБОЖЧЫКАЎ

Згодна з замацаваным на ўсёй усходняй Беласточчыне звычаем, нябожчыка павінны наведаць усе жыхары вёскі, таксама і тыя, якія былі з ім пры жыцці ў канфліктных адносінах. Смерць з'яўляецца свайго роду нагодай для таго, каб наступіла згода паміж ранейшымі ворагамі.

У час наведвання памёршага сабраныя выконваюць рад захадаў, акрэсленых хрысціянскімі навукамі. Да такога тыпу захадаў належыць прывоз з царквы і выстаўленне перад домам харугві. У згодзе з хрысціянскімі догмамі таксама рэлігійныя песні, якія выконваюцца сабранымі пры памёршым. Многія з прысутных калектыўна або індывідуальна моляцца, што таксама вынікае з наказаў царквы. Пры гэтым, аднак, выступае прыклад практык, якія не толькі не вынікаюць з хрысціянскіх навук, але ў многіх выпадках ім пярэчаць. Практыкі гэтыя з'яўляюцца або рэліктамі язычаства, або вынікаюць з апакрыфічных простанародных інтэрпрэтацый такіх ці іншых рэлігійных догмаў.

Найбольш характэрнай рысай гэтых захадаў з'яўляецца імкненне да выкарыстання нябожчыка для інтарэсаў жывых. І так, пры дапамозе памёршага стараліся жыхары ўсходняй Беласточчыны лячыць рознага тыпу хваробы, або заганы. Прагну сказаць, што ў 1935 або 1936 годзе я асабіста быў паддадзены аздараўліваючаму ўздзеянню нябожчыка. Калі памёр адзін з жыхароў Бандароў, маці падвяла мяне да яго цела і мізінцам яго левай рукі кранала барадаўкі, якія я меў па ўсёй руцэ. Як ні дзіўна, але барадаўкі па пэўным часе з маёй рукі прапалі. Зразумела, што я гэтага не звязваю з уздзеяннем нябожчыка. Пры дапамозе нябожчыкаў жыхары ўсходняй Беласточчыны стараліся лячыць таксама чырвоныя плямы, лішаі, мышкі, прышчы.

Зразумела, што для такіх захадаў была патрэбна згода сям'і або радні памёршага, якія не заўсёды дазвалялі на такія практыкі.

„Бывало такое, што, значыцца, калі памрэ чалавек, то зараз суседзі ужэ прут, каб там якіе-лень свае хваробы зніштчыць. Бо то ў аднаго лішаі або прышчы, а ў другого бородаўкі, колтун або якая-лень інша нечысць. То калі возьмеш і даткнеш пальцам нібожчыка да хворага месца, то тая хвароба возьме і прападзе. А чом? Пытаешсе. Бо ведомо і досьне ведомо, чом. Том, што раз чалавек ужэ мертвы, ну то і его тое датыканне таксама мертвэ. Даткнеш да бородаўкі мертвым, то і яна мертва будзе. Даткнеш да прышчаёў, то і яны сканают. Але не кажда сям'я памершага на такія штучкі згаджалася. Бывало і такое, што гаспадар або гаспадыня, калі тολькі замеціт, што хтось пры пакойніку займаецца такім чмутарствам, то возьме і адапрэ або і з хаты выжэне таго, што да пакойніка лезе. Ну яно ведомо, што да старых пакойнікаў то найчасцей дапускалі. Рабі сабе пры ім, што хочэш, але ад маладых нябожчыкаў то адганялі, як найдалей".

Выказванне гэта запісана мною ад жыхаркі вёскі Бандары, Зосі Бура. Падобным чынам глядзяць на гэту з'яву многія іншыя жыхары ўсходняй Беласточчыны. Цікава, што ў розных вёсках выступае больш шырокае, чым прыведзенае намі дагэтуль выкарыстанне нябожчыка жывымі.

Вось, для прыкладу, у вёсцы Клейнікі існавала перакананне, што пры дапамозе памёршага можна вылечыць п'яніцу ад алкагалізму. Для гэтай мэты жонка або маці п'яніцы старалася ўкінуць у труну нітку, роўную даўжынёю цела мужа ці сына-п'яніцы.

У многіх вёсках Сямяціцкага і Бельска-Падляшскага паветаў, жыхары карысталіся нябожчыкам пры лячэнні эпілепсіі. Рабілі гэта двайным спосабам: а) абцёршы цела эпілептыка анучай, клалі яе ў труну; б) у выпадку хваробы дзіцяці, выразалі лазу даўжынёй цела дзіцяці і клалі яе ў труну.

Вясковая грамадскасць верыла, што хвароба эпілепсіі прападзе ў тым моманце, калі дзіця перарасце даўжыню лазы.

**А. Баршчэўскі**




## БАРШЧЭЎСКІ, ЧЫТАЙ „БІБЛІЮ"!

Прачытаў я публікацыю Аляксандра Баршчэўскага пра ўяўленні аб душы. Я думаю, што Баршчэўскі — гэта разумны чалавек, і што ён напэўна чытаў Святое Пісанне, нават „Біблію", а не можа сваёй галавою ўцяміць, куды ідзе душа пасля смерці чалавека. Баршчэўскі ездзіць па вёсках і пытае непісьменных бабаў, каб яны растлумачылі яму наконт, менавіта, душы тае. Ну і што такая баба можа яму сказаць? Няўжо Баршчэўскі не чытаў пра тое, што Бог стварыў чалавека якраз з гліны і ўдыхнуў яму душу сваю, а калі так, дык пасля смерці чалавека ён забірае яе назад. Не ў грэх кажучы — гэта як з пазычанымі грашыма, якія забіраюць назад.

На мой погляд, усё тут вельмі простае: што Богава — трэба Богу, а што кесарава, уладнае, тое і ўладзе належыць.

**Р. Семянюк**



## ЧАМУ ПЛАЧУЦЬ НОВАНАРОДЖАНЫЯ?

Брытанскія медыкі нядаўна абнародавалі вынікі сваіх даследаванняў, якія датычаць вывучэння прычын крыку нованароджаных дзяцей на працягу першага тыдня жыцця. Яны лічаць, што, акрамя відавочных прычын — голаду, болі, высокай тэмпературы, — ёсць яшчэ 11 фактараў, якія залежаць ад сацыяльнага становішча маці і фізіялагічных асаблівасцей яе арганізма. У прыватнасці, высветлілася, што пэўную ролю адыгрывае ўзрост маці: чым яна старэйшая, тым большая верагоднасць таго, што дзіця будзе крыклівае. Вядома, што маладыя маці больш клапоцяцца аб сваім дзіцяці, лепш даглядаюць яго.




Здзіслаў Абяцунас — гэта звычайны разбойнік, з якім лепш не сустракацца на дарозе. Праўда, даўжэйшы час спакойныя людзі адпачнуць ад яго. На аснове прыгавору Ваяводскага суда ад 6 сакавіка г.г. З. Абяцунасу прыдзецца 11 годзікаў адпакутаваць за краткамі за свае бандыцкія вылазкі. Поўнага рэгістра ягоных злачынстваў ніхто дакладна не ведае. У пракуратуры, аднак, устаноўлена, а ў судзе пацверджана, што: напаў ён на Барбару З., у якой забраў 20 тыс. зл.; у Цэзарыя Р. адабраў 15 тыс. зл.; у Андрэя Н. — 600 зл.; у Язэпа П. — 6880 зл.

Ва ўсіх выпадках вельмі жорстка адносіўся ён да сваіх ахвяр. Найперш біў, а пасля патрабаваў аддаць усё каштоўнае, што людзі пры сабе мелі.

Аказваецца, што З. Абяцунас ужо раней быў пакараны за падобныя злачынствы. Новы, болей суровы прыгавор, выдаўся адвакату гэтага зладзея і разбойніка надта ж крыўдны і ён заявіў, што будзе апеляраваць, каб яго аблегчылі.

**Судамір Параграфчык**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do artykułu „Заможныя але задрыпаныя" w „Niwie" z dnia 10 maja 1987 r. Urząd Gminy w Milejczycach uprzejmie wyjaśnia.

W latach 1984—85 w Milejczycach był budowany wodociąg zbiorowy, dlatego też wszystkie ulice były rozkopane wzdłuż i w poprzek. W 1986 roku do zimy zdążyliśmy przygotować i pokryć dywanikiem asfaltowym jezdnie ulic. Natomiast nie było możliwości ułożenia chodników na tych ulicach. W czasie wiosennych roztopów stan i wygląd modernizowanych ulic nie cieszył nie tylko panią Aniszewską, ale również wszystkich mieszkańców Milejczyc. W obecnej chwili prowadzimy remont ulic. Układamy krawężniki, chodniki i robimy zjazdy. Zakładany jest telefoniczny kabel doziemny. Prace związane z przebudową ulic prowadzone będą i w roku następnym.

Poczta mieści się w budynku prywatnym, jednoizbowym pomieszczeniu. Warunki pracy pocztowców są bardzo ciężkie. Właściciel budynku na siłę chce usunąć urząd pocztowy, ponieważ sam z rodziną nie ma gdzie mieszkać. W obecnej chwili budujemy nowy budynek poczty i w roku bieżącym zostanie oddany w stanie surowym, zaś w roku 1988 będzie przekazany do użytku.

Zakład gastronomiczny Gminnej Spółdzielni mieści się w starym drewnianym budynku, ale nie jest w nim tak brudno, jak przedstawiła to korespondentka.

Magazynek opakowań przy sklepie spożywczym jest usytuowany w miejscu do tego przeznaczonym, ogrodzony siatką i nie stwarza przygnębiającego widoku.

Kończąc odpowiedź na artykuł uprzejmie proszę Redaktora „Niwy" o przyjazd do Milejczyc w celu wydania w obecnej chwili opinii o tym, co my robimy w rozbudowie i porządkowaniu Milejczyc.

Naczelnik Gminy w Milejczycach
**Mikołaj Bortniczuk**

Дзякуем за запросіны, абавязкова прыедзем, паглядзім і напішам.




78

**Няўдзячнасць** — узнагарода за стаpанні.
**Няшлюбным быць** — беспадстаўныя абгаворы.
**Няшчасце** — шчасце.

### О

**Омнібус** — табе перашкаджае твая ж пасіўнасць; ехаць ім — паступова ты даб'ешся свайго.
**Опера** — вялікія турботы і клопаты.
**Опіум** — пазбяжыш небяспекі.
**Ордэн** — добрая пасада; атрымаць — здабудзеш прызнанне і пашану; насіць — ушанаванне; згубіць — благія намеры.

### П

**Пабілі** цябе іншыя — цябе чакаюць прыкрасці.
**Пабрудзіцца** — абраза або хвароба.
**Пабрыты** — прыкрая страта.
**Пава** (птушка) — прыемнае спатканне падчас падарожжа; з прыгожым хвастом — удача.
**Павейваць** — лёгкадумнасць, ветранасць.
**Павелічэнне** маёмасці — сямейнае шчасце.
**Павесіцца** — гонар; іншага павесіць — няшчасце; павешаны — нястача грошай.
**Павітанне** — нечаканыя госці.
**Паводка** — назойлівыя крэдытары; непрыемнае патрабаванне вярнуць пазычанае; сваркі ў сям'і.
**Павой** — фальшывыя прыяцелі; сеяць яго — смерць у сям'і.
**Павук** — прыхільны паварот у справах; забіць яго — перамога.
**Павуцінне** — непрыемная справа.
**Павышэнне** на рабоце, узбагачэнне — быць замешаным у крымінальную справу.
**Павязка** — складаныя справы.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## АЧАРАВАННЕ

Паказваем чарговых удзельнікаў школьнага конкурсу „Беларуская песня-87“, багаты цэнтральны агляд якога адбыўся ў Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч





Уверсе дуэт з Беластока Анна Богус і Ірына Копа — заняў першае месца ў групе малых вакальных калектываў за песні „Перамога“ і „Першы летні дзень“. Падрыхтаваў дзяўчатак мгр Сцяпан Копа (злева, з гармонікам). Дзяўчаткі гэтыя — першыя беластоцкія ластаўкі на конкурсе. Маем надзею, што на наступны конкурс зляціцца іх з Беластока больш.

Злева Марыня — малая салістка з Ляўкова Старога, здольная, з вельмі музыкальнай сям'і Аліфераў, у конкурсе выступае з малых гадоў. Яе сястра (яна рыхтуе Марыню да конкурсу і заўсёды разам прыязджае на агляды) Аня — удзельніца такога ж конкурсу для дарослых. Марыня атрымала трэцюю ўзнагароду за песню „А ў полі вярба“ і „Козачка“.

## КАЗКА ПРА ЦУД-МАСТАКА І БЛАКІТНУЮ ВЕЖУ

Жыў на свеце мастак. Быў ён малады, прыгожы і вясёлы. Прачнуўся аднаго ранку мастак, выйшаў на ганак роднае хаты і ажно засмяяўся ад задавальнення: пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд... Радасна стала мастаку: столькі цяпла было ў гэтым мілым куточку!.. Раптам ён бачыць: народ валам валіць, музыкі ў бубны б'юць, смех, гоман, песні.

— Што такое? — пытаецца ў маці мастак. А маці яму адказвае:

— Гэта, дзетачка, наш кароль жэніцца! Маладую жонку ў свой палац вязе!

Выбег мастак на вуліцу, пачаў пытацца ў людзей:

— Пакажыце!.. Дзе кароль?! Дзе кароль з маладою жонкай?..

І неўзабаве пабачыў карэту, а ў ёй караля і яго маладую жонку. І такою яна яму прыгажуняй здалася, што пачаў мастак яе маляваць, проста на дарозе вішнёвым кіёчкам...

(Працяг на стар. 10)

Васіль Хомчанка

## ЖМЕНЯ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары).

Начальнік штаба згарнуў карту, загадаў накарміць дзяўчынку і знайсці ёй што-небудзь з адзення. Тэлефаністка Надзя аддала дзяўчынцы свае паношаныя боцікі, а Сілаеў — пілотку. Пілотка была вялікая, і яе ўшылі. Дзяўчынка надзела пілотку, падперазалася нечым раменем, а потым доўга круцілася перад сабой люстэрка.

— Скідай сукенку, ушыю, — сказала Надзя.

Дзяўчынка штосьці шапнула ёй на вуха.

— Маю надзень, — адказала тэлефаністка.

Засынаючы, я чуў, як клацалі нажніцы, як дзяўчынка шапталася з Надзяй. А калі прачнуўся, дык убачыў, што Надзя і два салдаты, схіліўшыся над сталом, нешта разглядаюць.

— Таварыш капітан, — сказала Надзя. — Падыдзіце, калі ласка.

— Ну, — падняўся я.

На стале ляжаў камяк сырой зямлі.

— Гэта ж з Беларусі, таварыш капітан. Дзяўчынка прынесла.

— Твая? — спытаў я.

— Мая. Адна цётка несла... А пасля мне аддала. Кажа,данясі.

— Якая цётка?

— Не ведаю. Я з ёю цэлы дзень ішла. А потым яна занядужала. Аддала мне і кажа — данясі.

У хаце стала вельмі ціха. Дрыжалі ад ветру шыбы, гудзела ў коміне. Салдат-віцяблянін пальцам, нібы да жывога, асцярожна дакрануўся да цёмнай маленькай грудкі. У Надзі часта заміргалі вейкі.

Беларусь для нас пачыналася вось ад гэтай маленькай жменькі зямлі. Нам належала вызваліць яе ўсю.

Праз паўгадзіны я выклікаў разведчыкаў. Ім трэба было разведаць пераправу і прабрацца ў тыл немцам. Калі разведчыкам растлумачылі заданне і сказалі пра жменю зямлі, яны пачалі заходзіць у хату, каб зірнуць на тую зямлю.

Вёску мы ўзялі раніцай. Удар разведчыкаў з тылу быў такі нечаканы, што немцы пакінулі вёску амаль без бою. З ходу мы ўзялі потым яшчэ дзве вёскі і станцыю.

А з дзяўчынкай той мне больш не давялося сустрэцца. Я нават не запомніў яе імя. Новы дзень прынёс новыя баі і новыя сустрэчы. Але жменю зямлі, якую дзяўчынка падарыла нам, я данёс да канца вайны. І цяпер ляжыць яна ў мяне ў стале ў маёй салдацкай табакерцы. Яе зусім нямнога — колькі можа ўзяць у жмені маленькая дзіцячая рука.

Мікола Чарняўскі

## МОЙ БОР

За горачкай,
За вёскай,
Як толькі паглядзець, —
Сінеецца палоска,
Віднеецца ледзь-ледзь.

Што гэта —
Добра знаю,
Бо над палоскай той
Усход мяне вітае
Заранкай залатой.

Я выбегу
За вёску,
За мною —
Росны след...
А сіняя палоска —
Мой бор,
Мой родны свет.

Ніл Гілевіч

## ДОБРАЙ НОЧЫ

*(з К. Вялічкава)*

За дубамі ў полі
Сонейка заходзіць,
Гасне дзень паволі,
Ночка надыходзіць.

Залатым гарошкам
Зоркі ўбралі неба,
Месяц звесіў рожкі
Пазірае нема.

Сціхла, задрамала
Груша каля хаты.
Добрай ночы, мама!
Добрай ночы, тата!

Птушкі селі ў гнёзды —
Позняя часіна.
Добрай ночы, сёстры!
Добрай ночы ўсім вам!

Віктар Швед

## КАНІКУЛЫ

Канікулы, канікулы —
Вясёлы летні час!
Прывабіла, паклікала
К сабе прырода нас.

Пад сонейка праменнямі
Штодзённа загараць,
Бурлівых рэк струменнямі
Дух, цела гартаваць,

Вясёлымі, здаровымі,
Сіл маючы запас,
Да працы зноў гатовымі
Вярнуцца ў школьны клас.

## ЗАГАДКІ

Ніл Гілевіч

Домік,
Поўненькі дабра,
Доўга
Быў без жыхара,
А жыхар
Як паявіўся —
Домік тут жа
Разваліўся.

Адказ у наступным нумары.

## БЛІЗКІ РОДЗІЧ

У час выклiканай трапічнымі ліўнямі паводкі на маленькім востраве пасярод шырокай ракі апынуліся разам Шымпанзе і Карова. Шымпанзе адразу павёў сябе як гаспадар: заняў самы ўтульны куток, адбіраў у Каровы лепшае, што знаходзілася на востраве з ежы.

— Ведаеш, хто я? — выхваляўся Шымпанзе. — Я блізкі родзіч Чалавека. А хто ты? Быдла. Уяўляю, як узрадуецца Чалавек, калі выратуе мяне, свайго блізкага родзіча! А што ты? Кім ты даводзішся Чалавеку?

Карова не адказвала. Яна журботна аглядала бясконцую водную роўнядзь і гэтак жа журботна жавала жвачку ці тое, што не паспеў адняць у яе нахабны Шымпанзе.

Праз некаторы час прыехаў на плыту Чалавек і зняў з вострава абедзвюх жывёлін. Карову Чалавек пасяліў на сваім двары і пабудаваў для яе ўтульны хляўчук. А Шымпанзе, свайго блізкага родзіча, аддаў у заапарк.

Дзіўна, ці не праўда?

**Язэп Таўшчэзны**

## ДУРНЫЯ ХЛОПЦЫ

— Як ты мог так набрацца ў мінулую суботу, Кастусь?

— Ды я трапіў да дурных хлопцаў. Нас было трое і чвэртка гарэлкі. А тыя двое аказаліся непітушчымі...





Матрос Задрыпкевіч на пабыўцы у роднай вёсцы.

## ПРЫНЦЫПОВАЯ

Прыехала маці ў госці да дачкі. Спачатку зайшла ў магазін, дзе дачка працуе, пагаварыла з ёю крыху, а затым кажа:

— Ну, дык зваж мне з кілаграм цукерак унукам на гасцінец, ды я і пайду, дома цябе чакаць буду. Не марудзь.

А ўвечары, калі селі вячэраць, маці дачцэ гаворыць:

— А ты, дачуся, мяне аблічыла... Як жа яно так выходзіць, га?..

— Э-э, мама, — адказвае дачка, — у магазіне для мяне ўсе роўныя!

## ПЕРАД ВЯСЕЛЛЕМ

— Мама, выйду замуж за Марка! Ён цудоўны: не п'е, не курыць, не мае ніякіх адмоўных рыс...

— Ты звар'яцела! А за што ж будзеш яго лаяць?

## НЕ ПРАХОДЗІЛІ

— Міколка, цябе ў школе не навучылі гаварыць „добры вечар"?

— Не, мы ж пачынаем вучыцца зранку.





Карась — ідэаліст. Дасюль лічыць, што рыбу ловяць вудкай.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Капітан дае распараджэнне вадалазу, які працуе на дне:

— Неадкладна падымайцеся на борт!

— Што здарылася, пан капітан? — пытае вадалаз.

— Карабель тоне! — адказвае капітан.

*

На Бруклінскім мосце нейкі чалавек узлазіць на парэнчы з яўным намерам скокнуць у ваду. Убачыўшы гэта, прахожы крыкнуў:

— Пачакайце! Раней чым адважыцеся ўчыніць самазабойства, давайце пагаворым некалькі хвілін аб жыцці!

Абодва мужчыны садзяцца на лавачцы і размаўляюць між сабой. Праз чвэрць гадзіны ўстаюць і, узяўшыся за рукі, скачуць у ваду разам.

*

Уільямс хваліцца сябрам, як ён аднойчы ў час вандраванняў па Афрыцы сам-насам сустрэўся з ільвом і маленькім сцізорыкам адрэзаў яму хвост.

— Чаму ж ты не адрэзаў яму галаву? — спытаў адзін з сяброў.

— Галавы ў яго ўжо не было, — адказаў Уільямс.

## СМЕЛЫ ВЕРАБЕЙ

— А мора па калена мне.
Што мне і шторм яго,
і гнеў?! —
Хвалько,
тутэйшы верабей,
Хваліў сябе
Бароне-цётцы.
І не тануў —
Ён быў у лодцы.

**Казімір Камейша**

**З „Веснiка Задрыпоніі"**

### БАРАЦЬБА ЗА ЦІШЫНЮ

Па патрабаванню жыхароў дома чыгуначная лінія перамешчана за граніцы жылога квартала. Зараз у кожнай кватэры больш выразна чуваць, аб чым... гавораць суседзі.

### ДЫЛЕМА ВЯРШЫЛЫ

Што выгадней: закрываць свае вочы на чужыя недахопы ці чужыя вочы на свае недахопы?







— Дзякуй, Віця, што падкінуў дадому...

## Курёзы

### НАВОКАЛ — АДЗІНАЦЦАЦЬ

Стары швейцарскі горад Залатуры ганарыцца сваімі помнікамі мастацтва і шматлікімі будынкамі ў стылю барока. Горад славуты яшчэ і тым, што яго жыхары захоўваюць стойкае ўпадабанне да лічбы адзінаццаць.

Усё пачалося ў 1481 годзе, калі Залатуры стаў адзінаццатым кантонам у Швейцарскай канфедэрацыі. Пасля гэтай падзеі лічба адзінаццаць стала тут сапраўды свяшчэннай і пачала дыктаваць свае парадкі.

Так, да канца мінулага стагоддзя ў горадзе налічвалася 11 цэркваў, 11 фантанаў, 11 вежаў, 11 пажарных кранаў, 11 таварыстваў мастацтва і рамяства, 11 старшых і 11 малодшых кантанальных саветнікаў, 11 рог салдат.

Культ лічбы адзінаццаць захаваўся да нашых дзён. І сёння госці могуць прыкмеціць 11 светафораў на 11 скрыжаваннях, наведаць 11 музеяў, іх будуць абслугоўваць у 11 банках і 11 рэстаранах. А славутыя памяткі горада ім пакажуць 11 экскурсаводаў у чырвонай уніформе.



**Не біся галавою аб сценку — ты турбуеш суседзяў.**